I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Студзень-2 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

стар. 8



## Каханне на ўсё жыццё.
## ТОП-5 він ад якіх не стогне гаманец

**Самы беларускамоўны футбольны клуб**
стар. 3

**Мянчук, які з’ехаў жыць у глухую вёску на Гомельшчыне, разважае пра праблемы беларускіх чыноўнікаў.**
стар. 4

**Сяржант адной з вайсковых часцей на Гомельшчыне прысуджаны да двух гадоў абмежавання волі за незаконны загад і збіццё салдата**
стар. 6

# Закон “Аб абароне спажыўцоў” патрабуе зменаў

***Закон “Аб абароне спажыўцоў” патрабуе зменаў – так лічыць каардынатар грамадзянскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак.***

Ён сфармуляваў палажэнне закона, якое датычыць маркіроўкі тавара, і новую рэдакцыю разаслаў усім дэпутатам Палаты прадстаўнікоў.

Летась яго прапанову падтрымалі 2-3 дэтутаты.

Сёлета іх ужо стала каля 15-ці.

– Беларусь зараз знаходзіцца ў Мытным звязе, па тэхнічных рэгламентах якога ў абавязковым парадку мусіць выкарыстоўвацца русская мова з інфармацыяй пра тавары.

У адрозненні ад іншых краін-вытворцаў гэтага звяза, у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы.

І за кошт таго, што рускую ў любым выпадку трэба выкарыстоўваць, пра беларускую нашыя вытворцы з эканамічных прычын могуць забыцца.

Выглядае, што і ў Савеце Міністраў ёсць прыхільнікі прапановы Ігара Случака, прынамсі сёлета закон уключаны ў пералік тых нарматыўных дакументаў, у якія трэба ўнесці змены. Гэты спіс з’явіўся на сайце Савета Міністраў.

*Васіль Кроква*

НЕ САРОМЕЙСЯ АБАРАНЯЦЬ СВАЕ ІНТАРЭСЫ



У краме падсунулі няякасны тавар? Аўтаінспектар несправядліва выпісаў штраф? ЖЭУ корміць абяцанкамі, але нічога не робіць? У паўсядзённым жыцці мы часта саромеемся абараняць уласныя інтарэсы. Апраўдваем сябе тым, што “лепей не звязвацца” і “ўсё адно праўды не дабіцца”. Або баімся займець славу скандаліста. У дупу ўсё! Калі сам пра сябе не падбаеш, ніхто за цябе гэтага не зробіць.

# У мазырскай бальніцы наведвальнік ударыў нажом пацыента: мужчына памёр у рэанімацыі

***Трагедыяй скончыўся візіт мясцовага жыхара ў траўматалагічнае аддзяленне Мазырскага гарадскога шпіталя. Наведваючы аднаго з пацыентаў, невядомы мужчына нанёс апошняму некалькі нажавых раненняў. Крыху пазней пацярпелы памёр у рэанімацыі.***

Наведвальнік прайшоў у палату № 13 траўматалогіі, у якой знаходзіліся некалькі пацыентаў, падышоў да аднаго з іх і нечакана нанёс некалькі удараў нажом у вобласць шыі. Пасля чаго, скарыстаўшыся панікай, паспеў збегчы з медустановы.

Нягледзячы на ўсе высілкі дактароў, раны пацярпелага апынуліся смяротнымі. Праз непрацяглы час 32-гадовы мужчына памёр у рэанімацыйным аддзяленні, паведамляе «Полесье своими глазами».

- Неадкладна на месца здарэння выехала следча-аператыўная група. Грамадзяніна, які падазраецца ў здзяйсненні злачынства, затрымалі праз некалькі гадзін, - распавёў намеснік начальніка Мазырскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Валянцін Пакштас.

Пазней высветлілася, што загінулага шпіталізавалі ў траўматалогію за тры дні да здарэння з траўмамі рознай ступені цяжкасці. Абодва ўдзельнікі трагедыі — жыхары Мазыра.

Падазраваны знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання. Мазырскі раённы аддзел СК завёў крымінальную справу па факце забойства.

*news.tut.by*

# Па справе Гомельскага мясакамбіната і Мінсельгасхарча ў якасці падазраваных праходзяць больш за 10 чалавек

***Следчы камітэт расследуе крымінальную справу ў дачыненні да службовых асоб ААТ «Гомельскі мясакамбінат», Гомельскага аблвыканкама і Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.***

Па крымінальнай справе ў якасці падазраваных прыцягнутыя больш за 10 чалавек. Іх дзеянні кваліфікаваныя па ч. 3 арт. 424 КК (злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі).

Крымінальная справа была распачатая Камітэтам дзяржаўнай бяспекі і перададзеная ў СК для далейшага расследавання, паведамляе Следчы камітэт.

Нагадаем, 2 снежня 2015 года ў СМІ паступіла інфармацыя пра затрыманне праваахоўнымі органамі намесніка Гомельскага аблвыканкама Аляксандра Максіменкі, дырэктара Гомельскага мясакамбіната Рычарда Стэфановіча і іншых службовых асоб за пэўныя махінацыі з мясам. У снежні КДБ ці СК не каментавалі гэтую інфармацыю.

Паводле інфармацыі СК, незабеспячэнне належных умоў захоўвання мяснной прадукцыі на Гомельскім мясакамбінаце з мая па снежань 2015 года прывяло да псавання больш за 100 тон мяса. «Дырэктар камбіната, заручыўшыся падтрымкай першага намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама і намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання — дырэктара дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду, насуперак патрабаванням нарматыўных



актаў, якія прадпісваюць утылізацыю такой прадукцыі, арганізаваў перапрацоўку і рэалізацыю сапсаванага мяса, што паставіла ў небяспеку жыццё і здароўе грамадзян», — інфармуе Следчы камітэт.

Цяпер праводзіцца работа па зборы доказнай базы. Атрыманыя звесткі аб тым, што адным з матываў учынення злачынства службовымі асобамі з'явілася імкненне ўтаіць сапраўднае становішча спраў на прадпрыемстве, дапушчаную безгаспадарчасць з боку кіраўніцтва, а таксама боязь негатыўных наступстваў для сябе.

Следства зрабіла захады па выяўленні і канфіскацыі сапсаванай прадукцыі, якая цяпер накіраваная на ўтылізацыю.

Гучныя затрыманні высокіх прадстаўнікоў улады адбываліся ў абласным цэнтры і раней. У верасні 2012 года быў затрыманы і затым асуджаны старшыня гарвыканкама Віктар Піліпец. У маі 2014 года былі затрыманыя першы намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Банчук і намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Трызна. Аляксандр Максіменка і заняў праз некаторы час крэсла Віктара Банчука.

У Магілёўскім абласным судзе цяпер ідуць слуханні крымінальнай справы, фігурантамі якой з'яўляюцца Банчук і Трызна. Ім ставяцца ў віну таксама махінацыі з мясам, якое пастаўлялася ў Расію без перадаплаты, з-за чаго беларускія камбінаты неслі страты.

*БелаПАН*

**ГумНо СПАРТЫУНАЕ**

# Самы беларускамоўны футбольны клуб

***Штогод каардынатар грамадскай кампаніі «Справаводства па-беларуску» Ігар Случак арганізоўвае ў сацыяльных сетках апытанне на самы беларускамоўны футбольны клуб краіны.***

Сёлета ў фінальнае апытанне праз сіта папярэдніх адбораў трапілі клубы “Гомель”, “Белшына”, “Тарпеда” Менск і “Крумкачы”.

Кажа Ігар Случак: – У апытанні прыняло ўдзел больш за паўтары тысячы чалавек. Першае месца заняў футбольны клуб “Крумкачы”. Ён прыйшоў з першай лігі, цудоўна правялі сезон. Клуб шырока выкарыстоўвае беларускую мову. Відаць, мае прыхільнікаў па ўсёй Беларусі, таму „Крумкачы” спынілі гегемонію ФК “Гомель” і былі прызнаныя самымі беларускамоўнымі.

Апытанне праходзіла сярод клубаў усіх трох беларускіх футбольных ліг. Другое месца ў апытанні заняў клуб “Гомель”, трэцяе – у менскага “Тарпеда”.

*Васіль Крokва*

# Мянчук, які з’ехаў жыць у глухую вёску на Гомельшчыне, разважае пра праблемы беларускіх чыноўнікаў.

*Абы не было вайны*

Цікаўлюся ў брата:

– Вось пачнецца вайна, на чыім баку ты будзеш?

Брат адказвае:

– Не на чым. Перачакаю ў лесе.

*Калгас імя Дзяржынскага*

Прынята лічыць, што Беларусь не можа нічога прапанаваць Свету. Мы, маўляў, настолькі маленькія і нязначныя, што не маем уласнага голасу на планетарным узроўні. Я лічу, што прынамсі сусветную філасофію мы ўзбагацілі ўнікальнай спраўджанай тэорыяй: «Добрае – гэта адсутнасць дрэннага». На гэтым адмаўленні грунтуецца ўся наша нацыянальная ідэя.

За маёй хатай ёсць кароўнік, які знаходзіцца на балансе калгаса імя Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. Спыніце жвавы рух даяркі, якая ўпоцемках вяртаецца з працы дадому, скажыце, што вы журналіст, і ў вас ёсць да яе некалькі пытанняў. 50 са 100 даярак адкажуць вам літаральна:

– Вой, адчапіцеся. Панапішаце ўсялякага, а ў мяне потым праблемы будуць.

Яшчэ 50 даярак адкажуць так:- Калгас у нас харошы, людзі рабацяшчыя, начальства не абіжае, памагае ва ўсім.

А калі вы «наскі» хлопец, як я, даведаецеся шмат новага пра беларускія калгасы. Але ўсе сто даярак будуць слёзна патрабаваць:

Толькі ж, барані Божа, не пішы нікуды!

Так і вынікае, што ў нас шмат затоеных праблемаў. Праблемаў, пра якія нельга пісаць, нельга казаць і нельга думаць.

Часам у палешукоў узнікае рашучасць ваяваць, але страх перамагае. Памятаю, калі толькі пераехаў у вёску і мясцовыя даведаліся, што я чалавек вучоны, умею «па-граматнаму» пісаць, дык прыходзілі з просьбамі скласці ананімку на дырэктара ці трохі спужаць чыноўніка. Мы да-




маўляліся сустрэцца заўтра. Праз месяц цікаўлюся, чаму не прыйшлі.

– Вой, няхай будзе, як яно ёсць. Абы не было новых праблемаў.

А шо, мы ўжо прызвычаіліся, мо так і трэба.

*Чыноўнікі – гэта даяркі*

Усе чыноўнікі, дарэчы, – гэта тыя самыя даяркі імя Дзяржынскага. Такія ж баязлівыя цёткі. Але калі даяркам дараваць можна, бо яны адказныя толькі за свае жыцці, то чыноўнікам усіх вертыкаляў – ніяк няможна. Бо там, дзе мусіць быць клопат пра сваю тэрыторыю, ёсць страх «абы не было праблемаў». Таму, напрыклад, забараняюцца сумнеўныя мерапрыемствы ці нейкія культурніцкія акты. Потым у інтэрнэце напішуць: «Ганьба! Ворагі беларушчыны!». Ніякія там не ворагі – проста баязлівыя даяркі. Як той кажа, лепей перабздзець, чым недабздзець. Гэтыя вертыкалі выкрышталізоўваліся цягам двух дзесяцігоддзяў. Яны ідэальныя для беларускага дзэна.

Як і даяркі, беларускія чыноўнікі любяць хаваць свае праблемы. Як, напрыклад, пару гадоў таму схавалі некалькі вёсак у Петрыкаўскім раёне за высокімі бляшанымі агароджамі. Мусілі прыехаць прэзідэнты трох краін на мясцовае народнае свята. І каб тыя прэзідэнты не ўгледзелі просты беларускі быт, яго зараўнялі металапрофілем. У выніку цэнтральныя вуліцы пераўтварыліся ў тунэлі, дзе вяскоўцы першыя месяцы блукалі, не маглі знайсці ўваходы ў свае двары.

А прэзідэнты, дарэчы, не прыехалі.

*Няма смецця – няма праблемы*

Аднак беларуская філасофія можа мець і станоўчыя наступствы. Толькі дзякуючы «Абы не было праблемаў» у Беларусі роўныя дарогі і няма смецця. Смецце – гэта праблема. Няма смецця – няма праблемы. Гэта вядомая сталінская тэорыя, але адрэдагаваная беларускімі гума-

ністамі. Простае і геніяльнае вырашэнне. А вы кажаце, мы нічога не можам даць Свету! Як па мне, усе краіны мусяць пераймаць наш вопыт.

Зноў жа пра смецце. Была ў мяне з ім праблема. Назбіралася за дзевяць месяцаў некалькі мяхоў. Штотыдзень вёску абслугоўвае спецыяльны трактар, аднак да мяне не збочваў, бо ў хаце некалькі год ніхто не жыў, і я не лічуся на балансе ў гэтага трактара.

Ужо і бабкі-суседкі кідаліся пад яго, спрабавалі спыніць сваймі целамі, і я тэлефанаваў у сельсавет, які на той момант быў вельмі заняты выбарамі. Варта было мне толькі напісаць у інтэрнэце, як на наступны ж дзень – ані праблемы, ані смецця.

Я б хацеў, каб гэта адбылося таму, што нейкі добры дзядзя чыноўнік прачытаў і вырашыў мне дапамагчы. Маўляў, гэта мой службовы абавязак – вырашаць праблемы. Я ж на гэтай пасадзе толькі для таго, каб спрыяць паляпшэнню ўмоваў жыцця ў раёне. Але тут спрацавала правіла са спецыяльнай метадычкі, якую выдаюць усім беларускім чыноўнікам пры нараджэнні: «Калі праблему няможна схаваць, толькі тады яе трэба вырашыць».

Мама цікавіцца: «Як табе не страшна такое пісаць?»

Страшна, мама. Я такі ж паляшук. Я ж таксама маю беларускі філасофскі ген. Як і мой дваюрадны брат, я сяджу ў лесе і чакаю, пакуль усё зменіцца. А ўсё абавязкова зменіцца само. Трэба толькі пачакаць. Два-тры стагоддзі, не болей.

Я не хачу, каб пачалася вайна. Вайна – гэта страты і забойствы для ўсіх бакоў. Але калі раптам такое здарыцца, не пытайцеся, на чыім баку будуць ваяваць палешукі. Мы будзем сядзець у лесе, смажыць сала і захоўваць сваю ідэнтычнасць, сутнасць якой – прыстасоўвацца да праблемаў, а не змагацца з імі.

*Андрусь Горват*

# Гамяльчук выхоўвае ручное лісяня

***Малады гамяльчук выхоўвае лісяня ў гарадской кватэры. Маленькі драпежнік трапіў да хлопца выпадкова.***

Аляксей Душкевіч збіраўся наведаць Гародню ў якасці турыста. А «Гарадзенскі заапарк» быў адным з аб'ектаў запланаванай вандроўкі. Перад падарожжам юнак прачытаў на інтэрнэт-старонцы заапарка, што пры жаданні магчыма стаць гаспадаром лісяняці.

– Я зайшоў неяк на сайт заапарка. Адкрыў раздзел «Крама», у якім убачыў абвестку пра продаж лісяняці. Калі я гэта прачытаў, у мяне заняло мову ад захаплення, бо ліса — мой самы ўлюбёны звер з дзяцінства. Калі ўжо справа дайшла да афармлення дакументаў, я не верыў свайму шчасцю. Памятаю, як казаў супрацоўнікам заапарку: «Паглядзіце, якая яна ўсё-такі прыгожая і класная». А яны мне ў адказ: «Бачым, што класная».



10-месяцовая Ніколь – так назваў сваю любіміцу хлопец — амаль адаптавалася да ўмоваў гарадской кватэры. Хоць час ад часу ў кантактах чалавека і драпежніка здараюцца кур'ёзы.

– Ніколь не любіць заставацца адна. Калі яе ігнараваць нейкі час, то яна можа адпомсціць. Часам перагрызае драты ад тэхнікі. А ўвогуле яна любіць скакаць па мэблі.

Аляксей Душкевіч рэкамендуе патэнцыйным гаспадарам лісянятаў развіваць у сабе цярпенне, паколькі працэс выхавання звера дастаткова складаны з-за гарэзлівага характару. Карміць лісяня рэкамендуецца кашамі і вараным мясам, бо сырое мяса з крывёй можа абудзіць у драпежніку звярыныя інстынкты.

Супрацоўнікі заапарку на інтэрнэт-старонцы «Гарадзенскага заапарку» інфармуюць, што прыплод лісянятаў прадаецца ўлетку. Усе ахвочыя стаць гаспадарамі прыгожых драпежнікаў павінны браніраваць будучых гадаванцаў загадзя.

*Мікола Бянько*

# Сяржант адной з вайсковых часцей на Гомельшчыне прысуджаны да двух гадоў абмежавання волі за незаконны загад і збіццё салдата

***За незаконны загад і збіццё салдата сяржант прысуджаны да двух гадоў абмежавання волі.***

Ноччу ў адной з вайсковых часцей Гомельшчыны прайшоў незвычайны ўздым маладых байцоў. Яго правялі праз невыкананне навабранцам тайных нястатутных правілаў, паведаміў «Гомельскай праўдзе» старэйшы пракурор аддзела пракуратуры вобласці Арцём Ігнаценка.

Камандзір аддзялення ў званні сяржанта загадаў маладым салдатам стаяць каля сваіх ложкаў да раніцы. Высветлена, калі адзін з байцоў адмовіўся выконваць незаконны загад, сяржант ужыў сілу. У дачыненні да яго распачалі крымінальную справу па арт.455 (Злоўжыванне ўладай, перавышэнне ўлады альбо бяздзейнасць улады) КК Рэспублікі Беларусь. Пракуратурай Гомельскай вобласці падтрымана абвінавачанне па крымінальнай справе ў дачыненні да вайскоўца тэрміновай службы.

Суд спецыяльна правялі ў гэтым жа вайсковым падраздзяленні — на вачах у таварышаў па службе. Сяржант раскаяўся, папрасіў прабачэння ў таварышаў і добраахвотна выканаў іскавыя патрабаванні збітага салдата. Абвінавачанага, ураджэнца Брэсцкай вобласці, прызналі вінаватым і пазбавілі воінскага звання «сяржант».

Яму прызначана пакаранне ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на 2 гады. Акрамя таго, яго на 2 гады пазбавілі права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў і выкананнем функцый прадстаўнікоў улады. Прысуд уступіў у законную сілу.

Да ведама. На Гомельшчыне з верасня 2014 пераемнікам ваеннай пракуратуры стаў аддзел па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў войсках абласной пракуратуры. Для папярэджання падобных злачынстваў яе супрацоўнікі пастаянна праводзяць прафілактычныя мерапрыемствы. Праваахоўнікі просяць грамадзян, якім вядома пра факты парушэння правоў і законных інтарэсаў ваеннаслужачых, праяве нястатутных узаемаадносін у воінскіх калектывах, паведаміць пра іх у аддзел па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў войсках пракуратуры вобласці па адрасе: г. Гомель, вул. Катуніна, 24, тэл. 8 (0232) 71-03-76.

*Ілля Горны, «Гомельская праўда»*




Калі мне не падабаецца ананас, я не ем ананас, я не заходжу да яго на старонку, не чытаю ягоны ціўцер, не сачу за ягоным жыццём і не абмяркоўваю яго.

# Крымінальная справа аб трактарысты з Гомельшчыны, які закапаў загінулага пасажыра – сталі вядомыя падрабязнасці

***Петрыкаўскім раённым аддзелам Следчага камітэта завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да трактарыста-машыніста сельскагаспадарчага прадпрыемства «Чалюшчавічы», дзеянні якога прывялі да гібелі работніка прадпрыемства.***

2 кастрычніка мінулага года абвінавачваны на трактары «Беларус» з прычэпам вывозіў з палёў зялёную масу ад кормаўборачных камбайнаў. Днём трактарыст заехаў на мехдвор прадпрыемства для рамонту прычэпа. Пасля ліквідацыі паломкі паехаў назад на поле ўжо разам з двума работнікамі. Нягледзячы на тое, што тэхнічнай характарыстыкай кабіны трактара не прадугледжаная перавозка пасажыраў, трактарыст пасадзіў у яе выконваючага абавязкі галоўнага аграінома і электрагазазваршчыка.

По дарозе кіроўца і пасажыры распівалі спіртныя напоі. Прыкладна а 19 гадзіне, калі трактар ўжо з загружаным прычэпам рухаўся па прасёлкавай дарозе, выпадкова адкрылася задняе акно кабіны, на якое як раз абапіраўся адзін пасажыраў-сабутыльнікаў, электрагазазваршчык. Як высветлілася, прылада на акне была няспраўнай на працягу года (дарэчы, яе зламалі падчас крадзяжу з трактара акумулятараў). Пасажыр выпаў з кабіны і ўпаў пад кола прычэпа. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў ён памёр на месцы здарэння.

Трактарыст з другім пасажырам вырашылі не выклікаць міліцыю, а замесці сляды. Трактарыст адвёз цела загінулага з месца здарэння, і пакінуў на абочыне. Ноччу ён вярнуўся на машыне, перавёз цела ў лясны масіў і закапаў.

Праз два дні, 4 кастрычніка, у Петрыкаўскі РАУС паступіла






паведамленне ад сужыцелькі загінулага. 29-гадовы трактарыст прадпрыемства зацікавіў следчых.

«У ходзе карпатлівай працы праваахоўнікаў ад аднавяскоўца пацярпелага паступіла яўка з павіннай. Мужчына распавёў аб які адбыўся ДТЗ і паказаў месца, дзе схаваў цела загінулага пасажыра», - паведаміла Марыя Крываногава, афіцыйны прадстаўнік СК па Гомельскай вобласці.

Устаноўлена, што з боку службовых асоб КСУП «Чалюшчавічы» не ажыццяўляўся кантроль за працай падначаленых работнікаў, што спрыяла парушэнням працоўнай дысцыпліны, распіццю спіртных напояў на працоўным месцы. Паказальна, што пры судова-хімічным даследаванні крыві загінулага знойдзены этылавы спірт ў колькасці 4,79 праміле.

Акрамя таго, на прадпрыемстве не быў наладжаны кантроль за станам сельскагаспадарчай тэхнікі; своечасовым выяўленнем і ліквідацыяй няспраўнасцяў, якія ўплываюць на бяспеку дарожнага руху; выпускам і вяртаннем транспарту на мехдвор.

У парадку артыкула 199 КПК Рэспублікі Беларусь Петрыкаўскім райаддзелам СК унесены шэраг уяўленняў аб ліквідацыі парушэнняў закона, прычын і ўмоў, якія садзейнічалі ўчыненню злачынства, у тым ліку ў раённы выканаўчы камітэт.

Трактарыст змешчаны пад варту, распачата крымінальная справа. Мужчыну пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

На сённяшні дзень крымінальная справа вывучана пракурорам і накіравана для разгляду ў суд Петрыкаўскага раёна.

*nn.by*

# Каханне на ўсё жыццё. ТОП-5 він ад якіх не стогне гаманец

***Не ведаеце якое віно выбраць для свята са сваімі закаханымі / ўтульнай пасядзелкі ў пад’ездзе / папойкі з аднагодкамі?***

Вочы разбягаюцца пры выглядзе кучы рознакаляровых скрынак і этыкетак, ды і ў кішэнях сферычны вакуум? Вы разгубленыя і гатовыя давяраць суб’ектыўным меркаванні невядомага Вам чалавека? Тады, спадарыні і кавалеры, прэзентуем вам 5 лепшых гатункаў таннага віна з паліц гомельскіх крамаў:

“СТАРАЯ КЕЛЬЯ”

У нас са “Старой кельяй” склаліся асаблівыя і далікатныя адносіны, але будзьце ўпэўненыя, Вам яно таксама спадабаецца і стане верным спадарожнікам у любой сітуацыі і ў любым месцы.

У адрозненне ад большасці іншых вінаў, калейдаскоп гэтага складаецца не з двух, а адразу трох колераў, а менавіта белага, чырвонага і ружовага. І толькі паспрабаваўшы кожнае з іх, Вы зможаце вырашыць для сябе, якое ж лепш (правільны адказ: чырвонае).

У бліжэйшым Еўраопце яго кошт складае ~ 40 картопелек за 0.7 і ~ 45 за 1 літр.

Працяг ў суседнім Гумне...

*Rachok Genious*




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Студзень 2016-2»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
“ГумНо”, г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA